

# Дзвінскі ўзгорак

*Кроч на свой родны,*
*дзвінскі ўзгорак,*
*каб глядзець у будучую сінь*

**ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №12 (99)**
**ЖНІВЕНЬ 2019 ГОДА**

ПАМЯЦЬ

## ДАРОЖКА ДА МЕМАРЫЯЛА АХВЯРАМ СТАЛІНІЗМУ

**Сябры грамадзкай ініцыятывы «Хайсы — віцебскія Курапаты» працягваюць добраўпарадкаваць месца сталінскіх расстрэлаў пад вёскай Хайсы Віцебскага раёну. Да крыжоў, якія ўсталяваныя ў 2017 годзе на ўскрайку «расстрэльнага» лесу і да магілы ахвяр сталінскага тэрору актывісты пракладаюць дарожку.**

“Сёньня былі пастаўленыя бардзюры і падрыхтаваная пляцоўка для ўсталяваньня пліткі на сьцяжынцы да крыжоў і на магіле няшчасных ахвяраў бальшавіцкага тэрору 1937-1941 гадоў”, — паведаміў у фэйсбуку кіраўнік ініцыятывы «Хайсы» Ян Дзяржаўцаў.

Зазначу таксама, што ўсё больш сапраўдных беларускіх грамадзянаў ахвяруюць сваімі сіламі, часам і сродкамі, каб народны мэмарыял выглядаў годна.

Нагадаем, мясцовыя ўлады адмаўляюцца прызнаваць, што ў лесе пад Хайсамі пахаваныя ахвяры сталінізму. Чалавечыя парэшткі, знойдзеныя на гэтым месцы 52-м пошукавым батальёнам, былі афіцыйна перапахаваныя каля станцыі Лужасна ў 2015-м і на могілках у Мазалаве ў 2018-м гадах як парэшткі «ахвяраў нацызму».

Між іншым, кіраўнік ініцыятывы «Хайсы» Ян Дзяржаўцаў быў у сьнежні 2017 году аштрафаваны за «самавольнае пахаваньне» чалавечых парэшткаў, знойдзеных у лесе ўжо пасьля працы пошукавага батальёна. Магіла, за якую штрафавалі Дзяржаўцава, знаходзіцца каля трох вялікіх крыжоў, да якіх актывісты зараз і пракладаюць дарожку.

Народны мэмарыял у «віцебскіх Курапатах» складаецца з 34-х крыжоў, 27 зь іх стаяць на месцах раскопаў, 7 крыжоў — сымбалічныя. Крыжы ў 2017 годзе асьвяціў каталіцкі сьвятар Вячаслаў Барок.

**https://vitebskspring.org**

ГАСПАДАРКА

## ВНЕДРЯЮТ ТОЧНОЕ ЗЕМЛЕДЕЛИЕ

**Самые современные разработки, позволяющие использовать весь потенциал полей, чтобы в дальнейшем получить максимальный урожай, осваивают в сельскохозяйственном предприятии «Мазоловогаз».**

Председатель Витебского облисполкома Николай Шерстнёв ознакомился с внедрением элементов такого цифрового земледелия. Для наглядности выбрали поле возле населенного пункта Хайсы, где два мощных «Кировца» лущили стерню.

Изучать каждый сантиметр почвы, вносить удобрения сбалансированно, влиять на урожайность, повышать плодородие почвы, а также отслеживать изменение ситуации во времени в каждой точке каждого конкретного поля — все это возможно с помощью точного земледелия. Выбор в пользу такого «аккуратного» сельского хозяйства недавно сделали в СХП «Мазоловогаз». Так, на тракторах, участвующих в операциях сева, внесения удобрений, почвообработки и защиты растений, было установлено четыре системы автоуправления. Параллельно создана пространственная основа предприятия, так называемые электронные карты полей, куда вошли базы данных по элементарным и рабочим участкам, рельефам полей, культурам-предшественникам, история внесения удобрений и средств защиты растений. Внедрено программное обеспечение по ведению, учету и анализу полей, техники и орудий, операций, людских и материальных ресурсов; составлению заданий (предписаний для технологических операций). Проведено обучение специалистов по использованию программного обеспечения. Сейчас прорабатывается вопрос по установке двух систем с целью производства работ осеннего сева со 100% автоматизацией управления, задействованными в нем самоходными машинами.

Механизатор Алексей Батуро одним из первых оценил преимущество новейших технологий: «В кабине «Кировца» установлен монитор, на котором вижу поле, порезанное на куски. Техника запрограммирована, идет ровно по намеченному маршруту, без всяких огрехов. Если раньше дневная выработка составляла в среднем до 25 гектаров, то сейчас это 33 гектара, что влияет и на зарплату».

Останавливаться на достигнутом на многопрофильном сельхозпредприятии «Мазоловогаз» не намерены. В перспективе — проведение агрохимических исследований, уточнение границ полей и препятствий методом облета полей и фотографирования мультиспектральной камерой с точностью 1 см, построение сетки с точками отбора проб на основании данных почвенной разности предыдущих тур-обследований, рельефов с привязкой к координатам GPS, составление карт заданий для дифференцированного внесения.

**Елена Чаплева**
**"Жыццё Прыдзвіння"**

ТЭРЫТОРЫЯ

## ХОРОШО ЖИТЬ В ЭКОПОМЕСТЬЕ

**Экопоместье «Звон-Гора» в Витебском районе — яркий пример развития сельских территорий, инициированного самими жителями.**

Желание молодых семей жить в ладу с природой на своей малой родине в д. Гора поддерживают руководство Витебского райисполкома и Задубровский сельский Совет.

На днях в агрогородке Задубровье состоялся форум «Взаимодействие», основной идеей которого стала совместная работа над стратегией устойчивого развития сельских территорий, деловой инициативы и предпринимательства на селе.

За десять лет существования поместья возродилась сама деревня, где обосновались поселенцы из Витебска и других городов республики. На экологических принципах они ведут натуральное хозяйство, возводят толокой экожилье из тростника, соломы, глины, других природных материалов. Сегодня в «Звон-Горе» 15 семей, где воспитывают 14 детей. Здесь ратуют за здоровый образ жизни, чистые органические продукты и правильное питание. Разводят пчел, изготавливают уксус, травяные напитки, в частности, из иван-чая, занимаются огородничеством, садоводством, обустраивают среду обитания. Выкопали несколько искусственных водоемов, где разводят рыбу, посадили много хвойных деревьев.

Недавно на территории поселения появился детский игровой комплекс норвежского типа, где дети проводят много времени. Закуплен он был на средства выделенного посольством Королевства Нидерландов гранта.

Особенно интересно, по словам поселенцев, проходят у них народные праздники — «Гуканне вясны», Купалье, «Богач» (праздник урожая), Коляды, Масленица. Центральная беседка в такие дни переполнена народом. Приезжают единомышленники из других поселений Беларуси, России, иных стран, обустраивают палаточный городок.

Вот и в эти выходные на спортивный праздник «Горские игры» отовсюду съедутся гости, чтобы поиграть в лапту, волейбол, настольный теннис, показать себя в молодецких забавах и семейной спартакиаде, творческой самодеятельности.

Незабываемое впечатление оставило выступление на форуме многократного рекордсмена мира и Европы, члена национальной паралимпийской сборной по плаванию, мастера спорта, звездного посла II Европейских игр и факелоносца «Пламени мира», предпринимателя и общественного деятеля, мотивационного спикера, выступающего в России, Европе, Индии и США, Алексея Талая.

Жизненный пример этого уникального человека служит сильной мотивацией для других. «Мы все вышли из деревни и туда возвратимся» — фраза, сказанная Алексеем, скорее руководство к действию, чем констатация факта. Он всей душой поддерживает развитие сельских территорий, бросает силы на раскрутку и реализацию за рубежом белорусских чистых экопродуктов.

**ЕЛЕНА БАШУН**
**«ВИТЕБСКИЕ ВЕСТИ»**

*Чытайце сайт*
*Віцебскага раёна:*
*http://vicebskreg.by*

ТВОРЧАСЦЬ

## У СКУЛЬПТУРЫ АДНАВІЛІ КУЛАК

**У траўні 2019 году анархісты адбілі Леніну руку, а кату — галаву. Яшчэ праз месяц нехта абліў скульптуру чырвонай фарбай. Некаторы час Ленін знаходзіўся пад чорным покрывам. Пасьля рамонту кампазыцыя зазнала зьмены: Ленін сьціснуў далонь у кулак...**

Бэтонная скульптура “Ленін з катом” была ўсталяваная на ўскрайку лесу за чыгуначнай станцыяй “Лучоса” ў кастрычніку 2018 году. Яе аўтар – віцебскі мастак і паэт Ігар Высоцкі.

У траўні 2019 году некалькі мужчын, якія пазьней назвалі сябе анархістамі, адбілі “правадыру” руку, а кату – галаву. Мужчын знайшлі па запісах камэраў назіраньня і пакаралі за хуліганства. Але праз месяц Ільліча зноў апаганілі – невядомыя аблілі ягоную фігуру чырвонай фарбай.

Пасьля аднаўленьня скульптурная кампазыцыя зьмянілася.

Раней Ленін рабіў левай рукой указальны жэст кату, цяпер – пагражае кулаком у накірунку гораду (адтуль відаць віцебскі мікраёраён “Мэдцэнтар”), а кот пазірае ўгару.

У інтэрвію СМІ аўтар скульптуры прызнаваўся, што дазволу на ўсталяваньне кампазыцыі не атрымліваў. “Ленін з катом” стаіць на вуліцы Радаснай у дачным пасёлку за станцыяй “Лучоса”.

**Зьміцер Міраш**
**"Віцебская вясна"**

ЭКАЛОГІЯ

# ДАЗВОЛЕНА ЗБІРАЦЬ БРУСНІЦЫ

**Рашэньне па збору ягад на ўсей тэрыторыі Віцебскай вобласці было прынятае Віцебскім аблвыканкамам 6-га жніўня.**

А вось з журавінамі трэба пачакаць да 4-га верасня. І ўсё роўна гэта самыя раннія тэрміны пачатку збору ягад, якія калі-небудзь былі прынятыя ў Віцебскай вобласці.

Звяртаем увагу на тое, што ягаду можна браць з дапамогай ручнога камбайна. Справа ў тым, што 29 сакавіка гэтага года ўступіла ў сілу пастанова Мінлясгаса «Аб зборы дзікарослых ягад». Дакумент зацвердзіў інструкцыю аб спосабах і прыстасаваннях для збору і нарыхтоўкі дзікаросаў ў лесе. Там таксама пазначаныя патрабаванні да «памочнікам», пры якіх яны не пашкодзяць ягаднікам і не прывядуць да іх знішчэння.

Так, інструмент для збору ягад, названы ў народзе камбайнам, або па-іншаму грабянец, павінен выглядаць наступным чынам: адлегласць паміж зуб'ямі - не менш за палову сантыметра, у зоне зрывання ягад не павінна быць рэжучых краёў. Усё гэта для таго, каб не дапусціць пашкоджання частак раслін. Акрамя таго, корпус і зубы павінны быць выраблены з пластмасы, металу, драўніны або іх камбінацыі. Гэтыя патрабаванні заснаваныя на вопыце іншых краін, а таксама зыходзячы з магчымасцяў вытворцаў.

Акрамя гэтага ў інструкцыі сказана, пры якіх умовах і як варта збіраць ягады з дапамогай «камбайнаў». Дары прыроды павінны быць саспелымі, а надвор'е - сухое, без расы на раслінах, рухі павінны рабіцца знізу ўверх, каб пазбегнуць абрыву лісця. Чарніцу і буякі трэба «заграбаць» пад вуглом да верхняй часткі куста, прытрымваючы кусты свабоднай рукой і пазбягаючы траплення ў грабянец тоўстай ніжняй часткі расліны. Пры зборы журавін «грабянец» будзе правільна накіроўваць па паверхні моху і кустах журавін.

Да гэтага часу выкарыстанне механічных прыстасаванняў для збору ягад было незаконным, таму што не было устаноўленых патрабаванняў да гэтых прадметаў. Але пасля ўнясення змяненняў у Лясной кодэкс і прыняцця пастановы міністэрства гэты прабел ліквідавалі.

- Прынятае рашэнне будзе спрыяць стварэнню дадатковых умоў для павелічэння аб'ёмаў нарыхтоўкі дзікарослых ягад у нашай краіне і эфектыўным выкарыстанні лясной прадукцыі, - пазначыла пазіцыю ведамства прэс-сакратар Мінлясгаса Анастасія Докучаева.

Яна падкрэсліла, што збіраць ягады ў лесе па новых правілах можна ўжо ў гэтым сезоне. Тэрміны збору ўсталёўваюцца аблвыканкамамі з улікам умоў у рэгіёнах. Парушэнне апісаных умоў можа прывесці да штрафа ў 20 базавых велічынь.

**А.Адамаў**

ПАМЯЦЬ

# ПАМЯТНИК ЗАРАСТАЕТ БУРЬЯНОМ

**В Витебском районе почти на самой границе с Россией есть городской поселок Яновичи, первое летописное упоминание о котором относится к XVI веку.**

По Всероссийской переписи населения в 1897 году здесь постоянно проживали 2359 жителей. Из них три четверти составляли евреи. Как пишет Аркадий Шульман в журнале «Мишпоха», вероятнее всего, это были в основном торговые люди:

*Яновичи удобно располо-жены между Витебском и Смоленском на пути к Москве. А по воде через реки Вымнянка и Касплю, когда-то более полноводные чем теперь, есть выход к Двине.*

Вскоре после начала Великой Отечественной войны поселок был оккупирован немецкими войсками. Захватив Яновичи, нацисты сразу переписали всех евреев, одновременно проводя среди них массовые убийства.

По словам Аркадия Львовича, практически ничего не осталось сегодня в Яновичах, чтобы напоминало о еврейском прошлом:

*Где находились три яновичские синагоги можно определить только по старой карте, хранящейся в школьном музее. Еще два места в местечке напоминают о том, что здесь более четырех столетий жили евреи. Это памятники, поставленные на местах расстрелов еврейского населения фашистам и их местными пособниками. Расстрелы были в августе-сентябре 1941 года.*

После войны на месте братской могилы установили табличку, на которой были написаны два слова: «Это здесь». В середине 50-х годов на месте расстрелов появились памятники.

Местные старожилы утверждают, что сначала памятник поставили недалеко от бывшей деревни Зайцево (ее уже нет на карте) на месте расстрела 1600 человек. Это было приблизительно в 1955 году, когда отмечали 10-летие Победы в Великой Отечественной войне. А через год или два еще один памятник поставили у безымянного ручья, в урочище Стрелка. Там было расстреляно 230 человек. (Цифры приблизительные).

*Памятники были одинаковые, оштукату-ренные пирамиды, наверху пятиконечная звезда, а чуть ниже Герб Белоруссии и табличка с надписью «Вечная память гражданам СССР, зверски расстрелянным гитлеровскими бандитами 10 сентября 1941 года», — уточняет Аркадий Шульман.*

В 2007 году за деньги английской семьи Лазарусов у старых памятников поставили новые. На каждом памятнике обозначено место гибели и число погибших, все надписи на трех языках: белорусском, английском и иврите.

По словам Аркадия Львовича, памятник, поставленный в урочище Стрелка, удачно вписался в место:

*А вот другой памятник, у бывшей деревни Зайцево, не довезли до места расстрела, наверное, метров триста. Дорога плохая, машина не прошла. И решили его поставить у развилки дорог. Одна из которых ведет в Руднянский район России, до границы 2, 5 километра, а другая — к месту расстрела.*

Место расстрела и памятник в двенадцати километрах от Яновичей. Действительно, это неблизкий путь по бездорожью, поэтому сюда никто не приходит.

В 2011 году к 500-летию Яновичей планировали сделать Парк памяти, а также проложить дорожку к памятнику, сделать мостик через ручей и благоустроить это место.

Однако, судя по фотографиям, присланным нашим читателем, претворить все эти планы в жизнь так и не удалось.

*Были с другом на рыбалке на речке Каспля, примерно в 40 километрах от Витебска, и случайно увидели мемориальный знак, увековечивающий память о жертвах нацизма. Признаться, то, что мы увидели неприятно впечатлило. К памятнику жертвам Холокоста не подъехать даже на джипе. Площадка вокруг мемориала заросла бурьяном и порослью деревьев. Получается, что памятник поставили, а дальше никому нет дела до этого, ни сельсовету, ни районной власти. Больно все это видеть,* — пишет мужчина.

К слову, фонд Лазаруса из Лондона уже 15 лет устанавливает в Беларуси мемориалы на месте массового убийства евреев. Сегодня в городах, поселках и деревнях по всей стране стоит более 100 памятников. Первый памятник жертвам Холокоста, возведенный на деньги фонда, появился в 2004 году на месте убийства евреев деревни Городея Гродненской области. А вслед за этим каждый год возводились новые мемориалы и обелиски, да не по одному.

**Светлана Васильева «Витебский курьер»**

СУСЕДЗІ

# МЕРОПРИЯТИЕ «БЫТ»

**Сотрудники милиции во взаимодействии с другими субъектами профилактики правонарушений работают на недопущение трагедий в сфере семейно-бытовых отношений. С целью стабилизации оперативной обстановки по предупреждению тяжких и особо тяжких преступлений против жизни и здоровья граждан с 29 июля по 3 августа правоохранители провели специальное комплексное мероприятие «Быт».**

Основной упор был сделан на проведение профилактических мероприятий по борьбе с пьянством и алкоголизмом, поскольку эти факторы являются основной причиной возникновения семейно-бытовых конфликтов. Сотрудники Витебского РОВД посетили более 150 домашних агрессоров.

По словам начальника отдела охраны правопорядка и профилактики Витебского РОВД Сергея Субботина, одной из эффективных и крайних мер, направленных на предупреждение правонарушений в сфере семейно-бытовых отношений, правоохранители называют направление лиц, злоупотребляющих спиртными напитками, в лечебно-трудовые профилактории. При наличии оснований — ограничение в дееспособности.

— Семья — это одна из величайших ценностей, но не всем удается ее сохранить, — с сожалением констатирует участковый инспектор милиции Витебского РОВД Александр Войтов, направляясь к своим подучетным. — Многие расставляют жизненные приоритеты по-иному, выбирая в спутники праздный образ жизни в компании единомышленников.

Не каждый может признаться себе в том, что он ведет неправильный образ жизни. Винить в своих грехах кого-то другого гораздо проще. К сожалению, в среде так называемых семейных дебоширов этот принцип срабатывает чаще, чем какой-либо другой. Добавим сюда литр-второй ядреного алкоголя — и получится картина из разряда «непарадной». Пил, бил… и не дай бог убил.

Какова она та самая допустимая доза, превысив которую, теряется человеческое обличие? Для каждого она своя. Важно не переступить черту, а тому, кто сделал этот шаг — помочь вернуться к жизни в обществе, которая и без алкоголя прекрасна, важно только смотреть не через стеклянное донышко бутылки. Об этом Александр Войтов напомнил еще одному своему старому знакомому. 24-летний молодой человек понимает, что все в его руках, но только взять себя в «ежовые» ему мешает компания. Может, разорвать порочный круг ему помогут мечты. А они вполне реальные.

— Охота девушку хорошую найти, семью создать, права получить, — откровенничает Владимир, понимая, что потихоньку надо идти к своим целям, но это опять, если не пить…

Тем более, что итог «выхода» на «конечной остановке» пристрастия к спиртному ему известен не понаслышке — родителей молодого человека сгубил алкоголь.

По мере того, как «бытовая операция» набирала обороты, внимание правоохранителей охватывало все больше граждан так называемых групп риска. Старший участковый инспектор милиции Сергей Тихонов вместе со своим молодым напарником Артемом Казаковым и инспектором уголовно-исполнительной инспекции Сергеем Шендюковым постучались в дом Сергея Р. Судя по приветствию милиционеров хозяином дома, поняли, что люди в погонах для него уж точно не враги. Не единожды супруга просила у них помощи, чтобы утихомирить разбушевавшегося благоверного. Во многом благодаря предпринятым со стороны правоохранителей профилактическим мерам мужчине удалось сохранить семью, вернуть расположение детей, а также не совершить преступление в сфере быта. Нет нареканий к сельчанину и со стороны работодателя. Не без участия местного Анискина после добросовестного труда научился отдыхать… культурно.

Что было раньше, Сергей вспоминать не любит, но не отрицает:

— Подставил семью, опозорил детей. Только на трезвую голову понял, что «утопить» себя проще, чем после «выпыть».

Глядя на то, как ребятня, а в семье трое детей, кружит возле отца, с трудом верится в то, что еще недавно в этом доме было место скандалам.

Руку помощи протянут милиционеры. Для пострадавших от домашнего насилия на постоянной основе действует общенациональная «горячая линия» (тел. 8-801-100-8-801), посредством которой можно бесплатно, анонимно получить консультацию по вопросам насилия в семье.

**Татьяна Князева "Жыццё Прыдзвіння"**

## АБ'ЯВА

***Каб атрымліваць кожны нумар газеты "Дзвінскі Ўзгорак" паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэдэфануйце.***

***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты "Дзвінскі Ўзгорак".***

***Наша газета стала размяшчацца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.***

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# «МОЦНАЯ ДЗЯРЖАВА» І ТРАНСАКЦЫЙНЫЯ ВЫДАТКІ

**Са сваім статутам у чужы манастыр не ходзяць. Для «беларускай мадэлі», будаўніцтву якой 10 ліпеня споўнілася чвэрць стагоддзя, еўрапейскі манастыр заўсёды быў чужы. Але, як ні дзіўна, у гэтым адчужэнні маецца свой плюс.**




У чужым манастыры не мае сэнсу качаць правы. У тых, хто пераступіў парог манастыра, выбар невялікі: або пакорліва пагадзіцца з мясцовым статутам, або развярнуцца праз левае плячо і не спрабаваць ні сабе, ні іншым тлуміць галаву расповедамі пра ўласную самабытнасць.

Паводле такога ж прынцыпу вось ужо 25 гадоў і ўзаемадзейнічае «беларуская мадэль» з краінамі Еўрасаюза. Зразумела, не ўся мадэль, а толькі яе эканамічны блок. Яна ім — нафтапрадукты, калійныя ўгнаенні і драўніну. Яны ёй — апараты сувязі, вылічальныя машыны і лекі.

Вы калі-небудзь чулі пра прэтэнзіі з боку еўрапейцаў да якасці беларускіх угнаенняў? А колькі разоў за апошнія гады ўздымаўся шум з-за нібыта рээкспарту расійскай драўніны? У тым і справа.

Іншая рэч — так званая Саюзная дзяржава. Яе нядоўгая гісторыя — гэта гісторыя бесперапынных гандлёвых войнаў: нафтавых, газавых, малочных... За прыкладам далёка хадзіць не трэба. 9 ліпеня адзіны палітык (АП) сустрэўся з дзяржаўным сакратаром Саюзнай дзяржавы Рыгорам Рапотам. Абмяжуюся адной цытатай, запазычанай з афіцыйнага прэс-рэлізу: «Трэба вырашаць і бягучыя пытанні, якіх у нас з Расіяй нямала. Напрыклад, у нас сёння каля 80 прадпрыемстваў закрытыя Расельгаснаглядам ці нейкім там органам у Расіі, а можа быць, і ўрадам. Хутчэй за ўсё, урадам. Закрытыя да паставак нашай прадукцыі ў Расію. Прытым паводле надуманых падстаў»…

**Там і тады, дзе і калі**

Сучасныя еўрапейскія дзяржавы — прадукт буржуазных рэвалюцый. У савецкай школе і ў савецкім універсітэце мне падрабязна тлумачылі, што мэта такіх рэвалюцый палягала ў пераходзе ўлады з рук дваранства ў рукі буржуазіі. Для эксплуатаваных жа класаў пры гэтым нічога прынцыпова не мянялася. Пра буржуазныя ж правы і свабоды калі і згадвалася, то мімаходзь.

Паспрабую запоўніць прабел з дапамогай простага прыкладу. Скажам, нехта Сміт вырашыў вырабляць дзіцячыя цацкі. Зразумела, што без пастаўшчыкоў матэрыялаў, камплектуючых, электраэнергіі і да таго падобнага яму не абысціся. З кожным з іх Сміт будзе заключаць дамовы пра пастаўкі.

А цяпер крыху арыфметыкі. Калі верагоднасць невыканання асобна ўзятай дамовы роўная 1%, то пры наяўнасці 100 пастаўшчыкоў у прадпрыемства Сміта будуць пастаянна ўзнікаць праблемы з выкананнем абавязацельстваў перад спажыўцамі (аптавікамі і крамамі). Апошнія стануць патрабаваць выплаты няўстоек.

Каб мінімізаваць магчымыя страты ад прэтэнзій спажыўцоў, Сміт у дамовы пастаўкі ўключыць пункт, які прадугледжвае штрафныя санкцыі за неналежнае выкананне абавязацельстваў пастаўшчыкамі, і пры неабходнасці запатрабуе іх выканання праз суд.

Але суд — гэта дзяржаўная структура. Тут без цытавання Леніна не абысціся: «Гісторыя паказвае, што дзяржава як адмысловы апарат прымусу людзей узнікала толькі там і тады, дзе і калі з'яўляўся падзел грамадства на класы — значыць, падзел на такія групы людзей, з якіх адны пастаянна могуць прысвойваць працу іншых, дзе адзін эксплуатуе іншага».

З класікам не паспрачаешся, але гэта не забараняе сфармуляваць пытанне: «На баку якога класа выступіць суд, калі прыме пазоў Сміта супраць нядбайнага пастаўшчыка?»

**Пяціразовая розніца!**

Пераход ад статыкі феадалізму да дынамікі капіталізму не ў апошнюю чаргу стаў магчымы дзякуючы пераходу ад саслоўнага права да права буржуазнага — гэта значыць, да права ўніверсальнага, перад якім усе роўныя. Наяўнасць такога пераходу пацвярджае практыка. Калі б Сміт не меў магчымасці знайсці падтрымку ў судзе супраць сваіх калегаў, то не магла б устойліва функцыянаваць і вытворчасць, для якой неабходны сотні пастаўшчыкоў.

Безумоўна, важнай характарыстыкай сучаснай дзяржавы з'яўляецца манаполія на гвалт. Тым яна прынцыпова адрозніваецца ад дзяржавы феадальнай з яе прыватнымі войскамі і судамі. Але калі сваім манапольным правам дзяржава карыстаецца выбарачна, напрыклад, калі прымае ў судах рашэнні на карысць сацыяльна блізкіх ёй ці на карысць тых, хто здольны больш заплаціць, то ў такой дзяржаве ніколі не паўстануць складаныя вытворчасці.

Калі хто сумняваецца, рэкамендую прачытаць кнігу бацькі сінгапурскага цуду Лі Куан Ю «Сінгапурская гісторыя: з «трэцяга свету» — у «першы» (1965–2000)». Кнігу можна знайсці ў інтэрнэце. З чаго пачаў сінгапурскі дыктатар свой шлях да поспеху? З перападпарадкавання судовай галіны ўлады Каралеўскаму суду ў Лондане. Але, абмяжоўваючы паўнамоцтвы нацыянальнага суда, ён тым самым скарачаў свае асабістыя паўнамоцтвы.

Вынік вядомы. Сінгапур паводле ВУП на душу насельніцтва па парытэту пакупніцкай здольнасці ў 2018 годзе апынуўся на 3-м месцы, Беларусь — на 65-м: 100 тысяч долараў супраць 20 тысяч долараў. Пяціразовая розніца!

Валавы ўнутраны прадукт Беларусі ў наступнай пяцігодцы павінен скласці 100 мільярдаў долараў. Такую задачу перад урадам АП паставіў у сакавіку 2018 года. Сур'ёзная задача, калі ўлічыць, што па выніках мінулага года галоўны эканамічны паказчык склаў 59,6 мільярда долараў (у Сінгапуры — 361,1 мільярда долараў пры колькасці насельніцтва 5,5 мільёна чалавек).

Праблема Леніна і яго паслядоўнікаў палягала не ў тым, што яны няправільна разумелі прыроду дзяржавы, а ў тым, што разумелі яе вельмі абмежавана. У прыватнасці, яны нават не здагадваліся пра існаванне трансакцыйных выдаткаў (выдаткаў на выдаткі, якія ўзнікаюць у сувязі з заключэннем кантрактаў), што я і паспрабаваў прадэманстраваць на прыкладзе Сміта.

З вяршыні беларускай уладнай вертыкалі мы ўжо трэцяе дзесяцігоддзе чуем здравіцы ў гонар «моцнай дзяржавы». Хто супраць? Усе за. Толькі я не ўпэўнены, што аўтары здравіцы вымераюць сілу дзяржавы яе здольнасцю зніжаць трансакцыйныя выдаткі…

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**

МАЦІ 328

# «… БУШЛАТ З НАДПІСАМ «ПАЖЫЦЬЦЁВАЕ ЗЬНЯВОЛЕНЬНЕ»

**Гісторыі падлеткаў, якіх асудзілі «за наркотыкі» і пекла бацькоў.**

23 гады на траіх атрымалі па 328-м «антынаркатычным» артыкуле Ягор, Слава і Андрэй. Падлеткаў абвінавачвалі ў распаўсюдзе псыхаактыўных рэчываў у складзе арганізаванай групы (частка 3 артыкула 328). Наркадылераў, якія пастаўлялі наркотыкі, не знайшлі.

**«Набывалі наркотыкі ў нявызначанай асобы, у нявызначаным месцы, у нявызначаны час»**

У крымінальнай справе фігуруюць 44 эпізоды «аб закладках». Зь іх 38 —з марыхуанай (разам больш за 400 грамаў). Яшчэ ў 6 закладках нібыта знаходзіўся псыхатроп «Альфа PVP». Сьледзтва сьцьвярджае, што хлопцы дзейнічалі як арганізаваная група. Дзе і ў каго яны бралі псыхаактыўныя рэчывы, сьледзтвам так і ня высьветлена. На ўсіх судах над падлеткамі гучалі стандартныя фразы: «набылі ў нявызначанай асобы ў нявызначаным месцы ў нявызначаны час».

Аляксандар Лукашэнка 20 жніўня адмыслова зьвярнуў увагу на злоўжываньні праваахоўнікаў пры расьсьледаваньні справаў па 328-м артыкуле.

«Колькасны аспэкт замест сыстэмнай барацьбы з наркагандлем, устанаўленьня каналаў паставак і распаўсюду ў краіне буйных партый наркотыкаў. Вядома, прасьцей за ўсё злавіць нейкага бамжа з наркотыкамі, а то яшчэ і падкінуць гэтыя наркотыкі непажаданым і адзначыць гэтую барацьбу. Каму гэта трэба?» — спытаў Аляксандар Лукашэнка.

**Гісторыя першая: адзіны сын, жорсткі кантроль бацькоў, але пра наркотыкі ў сям'і не размаўлялі**

«1 лістапада а 7-й раніцы апэратыўнікі ўварваліся ў нашу кватэру. Я толькі выйшла з душа, муж падумаў, што гэта рабаўнікі, нават нож схапіў. Але яны мэтанакіравана рванулі ў пакой сына. Павалілі дзіця на падлогу, заламалі рукі, паўгадзіны нікога не падпускалі, 15-гадовае дзіця ў гэты час дапытвалі без бацькоў, адваката, пэдагога, пагрозамі патрабавалі прызнаньні, што ён гандлюе наркотыкамі, патрабавалі пін-код тэлефона, гвалтам прымушалі нагаворваць на сябе», — распавядае маці Ягора С. Марына Станіславаўна.

На момант арышту хлопцу было 15 гадоў. Ён вучыўся на першым курсе менскага каледжа прадпрымальніцтва, куды паступіў пасьля 9 клясы СШ № 101. Адзінае дзіця ў бацькоў. Пасьля заканчэньня каледжу марыў працягваць вучобу ў Польшчы.

Марына кажа, што гаварылі з сынам нават пра групу «Сіні кіт», пра што заўгодна, але не пра наркотыкі.

«Я ў страшным сьне не магла такога ўявіць. Ягор быў ня проста заўсёды ў полі зроку — я яго вельмі моцна кантралявала ва ўсім, ён вяртаўся дадому а 9-й вечара, максымум у выходны — а 10-й вечара. 5 разоў на дзень мы стэлефаноўваліся».

Жанчына сьцьвярджае, што ні саміх наркотыкаў, ні рэчаў, зьвязаных з наркотыкамі, у іхнай кватэры не знайшлі. Кажа, што ведае ўсіх сяброў сына, мае іх тэлефоны. Пра існаваньне так званых «саўдзельнікаў» Вячаслава Л. і Андрэя С. яна даведалася толькі падчас сьледзтва.

«Больш за 9 месяцаў мы ў пекле. На роўным месцы намалявалі такія жудасныя карціны — арганізаваная злачынная група зь дзяцей! Я пісала скаргі ў Сьледчы камітэт і пракуратуру, каб завялі крымінальныя справы ў адносінах да нявызначаных асобаў. Атрымала адмову. Ніхто не зьбіраецца шукаць гэтых наркадылераў. Мы пасадзім дзяцей, а нявызначаныя асобы будуць даваць гэтую дрэнь, вэрбаваць дзяцей — няхай далей іх садзяць. Напрошваецца пытаньне — хто ж гэтыя нявызначаныя асобы?» — абураецца Марына.

**«Пра карысьлівыя пабуджэньні — гэта лухта»**

Зачытваючы прысуд, судзьдзя Анжаліка Казлова некалькі разоў казала, што хлопцы «дзейнічалі ў складзе арганізаванай групы», «з карысьлівых пабуджэньняў». Марына гэта абвяргае. Кажа, што грошай у сям'і хапае, у сына быў дарагі тэлефон, часта езьдзілі ў адпачынкі за мяжу.

Яна не хавае: калі адзінага сына арыштавалі, была ў такім адчаі, што не хацелася жыць. Кажа, што ў галаве не ўкладаецца, як такое магло здарыцца.

Для мяне цяпер сэнс існаваньня — дастаць маё дзіця адтуль, выцягнуць. Няма нічога важнейшага. У мяне аднялі самае дарагое... Натуральна, прысуд будзем

***(працяг на стр. 3)***

## МАЦІ 328

*(пачатак на стар. №3)*
абскарджваць. Мяне вельмі абурыла, што калі я зайшла да судзьдзі Казловай і папрасіла копію прысуду, тая адмовіла, нібыта копія «паложана» толькі асуджанаму і адвакату. Але ж дзіця непаўналетняе, я законны прадстаўнік! Гэта «бязьмежжа». Такое ўражаньне, што гэта не дзяржаўны суд, а «ІП Казлова»«.

Марына зьбіраецца ісьці на прыём да міністра ўнутраных спраў Юрыя Караева, хоча дагрукацца да самога Лукашэнкі.

«Зараз судзяць стаўпецкага забойцу, які зарэзаў двух чалавек, і яму сьвецяць таксама 8–10 гадоў. А тут 10 гадоў пры тым, што ўсе доказы здабытыя з парушэньнямі! Так губіць жыцьці дзяцей!» — абураецца маці.

**Гісторыя другая, вельмі падобная да першай. Прыстойная сям'я, хатняе дзіця**

«Я прыйшла ў школу на апошні званок, падручнікі адносіць. Глядзела на прыгожых дзяўчат, хлопцаў, на апошні вальс у школьным двары. І калі мне клясная кіраўніца званочак аддала для Славы, што першакляшкі дарылі выпускнікам, стаю і раву...» — таксама са сьлязьмі распавядае Сьвятлана, маці Вячаслава Л.

Вячаславу на момант затрыманьня было 16 гадоў, ён вучыўся ў 11-й клясе сталічнай школы № 67. Жыве разам з маці, татам і бабуляй. Старэйшая сястра дарослая, жыве асобна ад бацькоў.

«Сын — звычайны актыўны падлетак: катаўся на скейце, выкрунтасы ўсялякія выраблаў. Ганяў на роварах — як усе. У дзяцінстве займаўся самба. У 12 гадоў яго нават на чэмпіянат у Маскву запрасілі, але я не дазволіла, пабаялася яго адпускаць — ён хатняе дзіця. Займаўся пэўны час барацьбой, а потым кажа: „Я для сваёй самаабароны ўжо навучыўся самба, адзінаборствы — гэта не маё! Пайду ў камандны спорт". І пайшоў займацца баскетболам», — распавядаюць бацькі пра захапленьні Славы.

Маці Сьвятлана кажа, што ў яе з сынам былі вельмі даверлівыя адносіны. «Слава мне ўсё распавядаў, я ніколі да яго ў кішэні ня лазіла, не заглядвала ў тэлефон. Мне было сорамна. Я паважаю сваё дзіця. А з бацькам яны наагул лепшыя сябры. Мы ніколі не чырванелі за яго — ні ў дзіцячым садку, ні перад суседзямі, ні ў школе. Клясная кіраўніца жартавала: „Ён разумнік, на ўроках сядзіць ціхенька, як мыш, уважліва слухае, каб дома менш рабіць".

Такі дамашні хлопец, заўсёды за мамінай сьпінай. Ня ўмеў гузік прышыць. А цяпер сам у СІЗА мые свае шкарпэткі і майткі. Навучыўся», — плача Сьвятлана.

**«Мог набыць наркотык, нават мог пакурыць. Але якая злачынная арганізаваная група зь дзяцей?»**

У кватэру, дзе Слава жыў з бацькамі, раніцай прыйшла група ў цывільным, адразу пайшлі да хлопца і запатрабавалі мабільны тэлефон. Сьвятлана кажа, правоў яму не патлумачылі, запалохвалі, дапытвалі без адваката і бацькоў. Нібыта ў ліфтавой пад'езда знайшлі нейкі скрутак, прымушалі, каб сын прызнаўся, што гэта яго. Закладкі забіралі па каардынатах нібыта з тэлефона сына, але без панятых. Як законная прадстаўніца непаўналетняга, у апошнім слове Сьвятлана скажа, што дапускае: мог адзін раз паспытаць наркотык.

«Ну, аступіўся адзін раз, мог купіць псыхатроп, нават мог пакурыць. Але якая злачынная арганізаваная група зь дзяцей? Пракурор прасіць 12 гадоў для непаўналетніх — гэта жах. У ніводнай краіне сьвету няма такіх пакараньняў», — перакананая маці.

Ніякіх лішніх грошай у сына не было, нічога ён не зарабляў, сьцьвярджае Сьвятлана.

«Летась на дзень народзінаў уся радня разам на тэлефон назьбірала, бабулі, хросныя падаравалі грошы, ён купіў „бэушны" тэлефон, ня новы. Калі яму штосьці было патрэбна, зьбіраў грошы. Часам прасіў у мяне: „Мамуль, дакінь капеечку"»...

Цяпер уся сям'я ў даўгах. Сьвятлана кажа, што 250 рублёў каштуюць паслугі адваката за кожнае судовае паседжаньне, а іх было 11. Гэта толькі суды, ня лічачы сьледчых дзеяньняў, паездак адваката ў турму…

*(скарочана)*

**https://www.svaboda.org**

## ЛАБІЗМ

# ЛОББИСТ ЗА 60 ТЫСЯЧ ДОЛЛАРОВ

**Беларусь ищет альтернативу российской нефти в США, но из-за санкций импорт углеводородного сырья невозможен. Чтобы получить специальное разрешение на поставки, Беларусь платит десятки тысяч долларов американскому лоббисту.**

Белорусская нефтяная компания (БНК) наняла лоббиста для смягчения санкций и покупки нефти в США. Контракт заключен с Дэвидом Дженкарелли в июле этого года.

Американский лоббист с многолетним стажем оказывает своим клиентам, в том числе из энергетического сектора, помощь по взаимодействию с конгрессом США и другими федеральными органами, указано в его профиле в Linkedin.

Он поможет белорусской компании получить специальную лицензию Министерства финансов США на покупку сырой нефти с доставкой на нефтеперерабатывающие заводы Беларуси, сказано в документах, поданных в соответствии с Законом о регистрации иностранных агентов.

В сентябре-октябре этого года Дженкарелли «организует деловую встречу с представителями государственных органов США, вовлеченных в процесс принятия решения о выдаче лицензии, с возможной презентацией нефтяной промышленности Беларуси в поддержку запроса о предоставлении лицензии».

БНК заплатит лоббисту 60 тысяч долларов. Если его работа будет успешной, то он продолжит консультировать БНК относительно соблюдения условий полученной лицензии.

Стороны также «проведут консультации о возможности заключения нового соглашения об оказании услуг по вопросу полной отмены санкций в отношении концерна "Белнефтехим" и его предприятий». «Белнефтехим» и аффилированные структуры находятся под санкциями США с 2007 года. В «Белнефтехиме» корреспондента Naviny.by отправили за комментарием в БНК, а там отказались говорить на эту тему.

**Беларусь ищет альтернативу**

Покупка американской нефти вписывается в планы Беларуси по диверсификации поставок углеводородного сырья. Сейчас основные объемы закупаются в России.

После аварии на нефтепроводе «Дружба» в Беларуси заявляли о намерении начать поставки альтернативной нефти уже в этом году. Для импорта сырья готовы даже купить нефтяной терминал в странах Балтии. Речь идет об объемах в 200-300 тысяч тонн нефти в месяц.

Теоретически белорусские НПЗ могут перерабатывать и азербайджанскую, и саудовскую, и нигерийскую нефть, сообщал ранее заместитель генерального директора БНК Сергей Гриб. Беларусь также надеется на поставки нефти из Казахстана.

В этом году белорусские дипломаты и чиновники провели переговоры на этот счет с коллегами из Нигерии и Азербайджана. Ранее в Беларуси перерабатывали небольшие объемы нефти из Венесуэлы, Азербайджана и Ирана. Эти поставки принесли Беларуси положительный опыт, заверяли в БНК.

Попытки Беларуси найти альтернативных поставщиков нефти оцениваются экспертами двояко. С одной стороны, со временем цены на российское сырье для Минска достигнут мирового уровня, поэтому важно диверсифицировать свои источники. С другой стороны, наличие альтернативных поставщиков может быть дополнительным аргументом в постоянных и тяжелых переговорах с Россией…

*(скарочана)*

**Александр ЯРОШЕВИЧ**
**«БЕЛАПАН"**

## КНІГАРНЯ

# ЛУКАШЭНКА ПРАЧЫТАЎ «ТАНТАМАРЭСКІ»

**Новая кніга Бібліятэкі Свабоды «Тантамарэскі» расказала пра судовы працэс 58-мі мытнікаў памежнага пункту Каменны Лог, асуджаных на турэмныя тэрміны ад 5 да 11,5 гадоў за карупцыю без адзінага аб'ектыўнага факту віны.**

Калі Лукашэнка казаў, што чытае кніжкі, ня ўсе паверылі. А дарма.

Тыповы для сёньняшняй Беларусі працэс выклікаў гнеў кіраўніка дзяржавы. На вялікай нарадзе з праваахоўнікамі ён пераказаў сутнасьць кнігі.

Выбітыя ці купленыя ў часе сьледзтва прызнальныя паказаньні як адзіны «доказ» віны, фальсыфікацыя судовых пратаколаў, якая не дазваляе наступнай судовай інстанцыі перагледзець «касякі» папярэдняй, фармаваньне калектыўнай «віны» пры поўным забыцьці той індывідуалізацыі, якой патрабуе закон — то бок, расчалавечваньне ўсёй праваахоўнай сыстэмы, для якой фактар чалавека быў цалкам заменены фактарам статыстыкі — вось пра што даведаўся з «Тантамарэсак» і ў чым дакараў сілавікоў Лукашэнка. Сытуацыя аказалася тыповай ня толькі для мытных працэсаў, але і для ўсіх «тэматычных» масавых спраў, прычым ня толькі карупцыйных, але і, напрыклад, зьвязаных з наркотыкамі.

У аснове палітыкі — чалавек, — сказаў Лукашэнка. — А праваахоўныя органы цікавіць ня лёс чалавека, а лічбы справаздачнасьці. Чаму так — не сказаў. А прычына ў тым, што справаздачнасьці патрабуюць зьверху, найперш сам Лукашэнка. Калі яму сапраўды дарагі чалавек, чаму б не зірнуць на статыстыку апраўдальных прысудаў, якіх у Беларусі 0,1%, тады як у іншых эўрапейскіх краінах — 20–30%? Пагатоў і заканадаўства ў нас патрабуе апраўдваць невінаватых, а не наадварот — саджаць невінаватых.

І фальсыфікацыя крымінальных спраў, пра якую з «Тантамарэсак» даведаўся Лукашэнка, мае тую самую прычыну — пакаральную справаздачнасьць. Ёсьць, праўда, яшчэ адна прычына, пра якую ён прачытаў, але не сказаў: гэта беспрэцэдэнтная ў Эўропе колькасьць праваахоўнікаў, якім даводзіцца імітаваць дзейнасьць, апраўдваць сваё існаваньне.

Прымяненьне сілавых мэтадаў, несувымерных для сытуацыі, заўважыў Лукашэнка ў «Тантамарэсках». А як інакш, калі прызнальныя паказаньні выкарыстоўваюцца ў якасьці адзінага доказу віны. Насуперак закону, дарэчы. У мытным працэсе Каменнага Логу фігуравалі дзясяткі тысяч (!) эпізодаў перадачы грошай, заўважце, усе пад камэрамі відэаназіраньня. Але не было прадстаўлена ніводнага (!) факту аўдыё- ці відэафіксацыі. Толькі прызнальныя паказаньні на сябе і іншых. Пытаньне да Лукашэнкі: за што сядзяць тыя мытнікі, якія сваёй віны не прызналі? У тым ліку асьветнік і краязнаўца Алесь Юркойць? Дзе «жалезабэтонныя» доказы віны яго і ягоных калег, якія ў судзе даказалі, што грошай ня бралі і браць не маглі? І што іх абгаварылі тыя калегі, якія «прыжучылі»?

Не зьдзіўляюся, што «Тантамарэскі» так уразілі Лукашэнку, што ён мусіў склікаць вялізную нараду з усім сілавым блёкам. Але як зьмяніць сытуацыю, не сказаў. Таму што крыніца ўсіх гэтых заганаў — ён сам.

Прэзумпцыя невінаватасьці добра прапісаная ў беларускім заканадаўстве. І ўсё, чым абураўся Лукашэнка, забараняецца законам. Але ж гэта Лукашэнкавы словы: А мне справядлівасьць важнейшая за любы закон. Гэта першае.

Другое — поўная залежнасьць судовае ўлады. У Беларусі толькі адзін чалавек можа прызначыць або звольніць судзьдзю. Гэта Лукашэнка. І нічога дзіўнага, што супрацоўнікі КДБ ад ягонага імя пагражаюць судзьдзям, што могуць іх «нахіліць».

Трэцяе — вяршэнства грошай. Важней не апраўдаць невінаватага і кампэнсаваць яму страты, а пасадзіць яго з поўнай канфіскацыяй і «возмещением» у трох-пяціразовым памеры. Хіба ня гэтага патрабаваў Лукашэнка яшчэ да суду над мытнікамі Каменнага Логу? Ну і як патрабаваў — жэстачайша, калёным жалезам... Якая ж тут гуманізацыя, які зламаны лёс чалавека, пра што ён шмат разоў казаў на нарадзе зь сілавікамі.

На добры лад вынікам гэтай нарады мусіла б стаць масавая амністыя тым асуджаным, хто віны не прызнаў, і яшчэ больш масавы перагляд спраў, дзе віна «даказаная» не аб'ектыўнымі фактамі, а толькі прызнальнымі паказаньнямі. Але ні пра што падобнае Лукашэнка не сказаў. Толькі сілавікі зашушукаліся пра перастаноўкі ў сваіх шэрагах, што, натуральна, справы ня зьменіць.

А якую выснову зрабіў Лукашэнка? Праваахоўныя органы павінны працаваць ня проста эфэктыўна, а якасна, талкова. Мог бы сказаць і наадварот: ня проста якасна, талкова, а эфэктыўна. То бок, ні пра што. І зноў паўтарыў: пакладзіце ў аснову ня толькі закон, а справядлівасьць. Маўляў, закону недастаткова.

А якраз у гэтым сьцьверджаньні і схаваная прычына ўсяго, пра што ён казаў на гэтай «гістарычнай» нарадзе. Бо закон для ўсіх адзін, а справядлівасьць у кожнага свая.

**Сяргей Дубавец**
**https://www.svaboda.org**

**Заснавальнік і рэдактар:** Смолікаў Канстанцін Эдуардавіч

**Адрас рэдакцыі:** г. Віцебск, вул. 1-я Сененская д.5, Тэл. +375-29-218-98-38, e-mail: kas_vit@tut.by
Газета выдаецца з лютага 2014 г.

**Падпісана да друку 28.08.2019 у 17.35**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.